Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

## НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА

г. Менск,
Дом Урада,
левае крыло, 4 паверх,
пак. № 415.

Тэл. № 22-540.

№ 11 (47) | Год выдання 2-гі | 7 мая 1936 г. | № 11 (47)

# БУДЗЕМ ГАНДЛЯВАЦЬ ПА-СТАХАНАЎСКУ

**(Артыкул Наркома Ўнутранага Гандля БССР тав. Гурэвіча Н. Г.)**

Дзяржаўны гандаль БССР за апошнія гады атрымаў значны размах і ўдзельная вага яго зараз у агульным таваразвароце рэспублікі складае 65,2 проц. Рознічны таваразварот БССР у 1936 г. разам з грамадскім харчаваннем дасягнуў 2117,5 міл. руб. На долю дзяржаўнага гандля прыпадае 1409 міл. руб., у тым ліку па сістэме Наркамунутгандля 968,5 міл. р.

За апошні час у сістэме гандля Наркамунутгандля выявіўся цэлы рад работнікаў-стаханаўцаў, якія сістэматычна перавыконваюць сваю норму, паказваюць узоры культурнага абслугоўвання савецкага спажыўца.

Праведзеныя галінныя нарады стаханаўцаў-выдатнікаў гандля сістэмы Наркамунутгандля (грамадскага харчавання, хлебнікаў, бакалейшчыкаў, галантарэйшчыкаў) паказалі, што ў нашай сістэме ёсць значная колькасць людзей, якія па свайму тэхнічнаму ўзроўню, веданню справы і ўменню абслугоўваць спажыўца з'яўляюцца сапраўды культурнымі савецкімі прадаўцамі.

Патрабаванні, якія сёння прад'яўляюцца да гандля, вельмі высокія. Наш савецкі спажывец настолькі вырас, патрэбнасці яго сталі настолькі вялікімі, што гандаль павінен карэнным чынам перабудавацца, каб умець задаволіць попыт спажыўца. Для гэтага неабходны кваліфікаваныя кадры гандлёвых работнікаў, якія-б здолелі па-савецку абслужыць узросшыя патрабаванні савецкага спажыўца.

Праведзеная намі работа на працягу апошніх месяцаў па ўкараненню асартыментнага мінімума, па насычэнню сеткі таварамі штодзённага попыту дала свае бясспрэчныя рэзультаты. У сучасны момант пры паўторных праверках ужо з'яўляюцца рэдкасцю факты адсутнасці таго ці іншага тавара штодзённага попыту.

У 1936 г. перад таваразваротам рэспублікі стаяць велізарныя задачы. Таваразварот сёння з'яўляецца той адзінай галіной народнай гаспадаркі, якая яшчэ адстае ў параўнанні з іншымі галінамі. Як указаў тав. МОЛАТАЎ у сваім дакладзе на 2-й сесіі ЦВК СССР у студзені 1936 г.: „У цэнтры гаспадарчых задач 1936 г. павінны стаяць задачы развіцця савецкага гандля, ад якога зараз многа залежыць".

Як указвае далей т. МОЛАТАЎ: „Цяпер справа ў арганізацыі гандля, у яго культурнасці, у яго кадрах".

Асноўная мэтавая ўстаноўка склікаемай усебеларускай нарады стаханаўцаў-выдатнікаў дзяржаўнага гандля—мабілізацыя ўсіх работнікаў гандля сістэмы Наркамунутгандля на лепшае ажыццяўленне тых велізарных задач, якія пастаўлены перад таваразваротам на 1936 г.

Задачай стаханаўцаў з'яўляецца не толькі самім выконваць і перавыконваць план, не толькі самім культурна абслугоўваць спажыўца, але і мабілізаваць сваім асабістым прыкладам, сваёй умелай культурнай работай усіх астатніх работнікаў прылаўка, усіх астатніх заг. магазінаў, множачы рады стаханаўцаў гандля, якія ўмеюць культурна і далікатна абслугоўваць спажыўца.

Нарада з'явіцца месцам перадачы вопыту работы лепшых людзей дзяржгандля БССР і паслужыць практычнай школай для многіх работнікаў гандля.

У парадку падрыхтоўкі да нарады на месцах была праведзена значная работа, якая дала практычныя рэзультаты ў сэнсе забеспячэння перавыканання плана таваразвароту па большасці гандлюючых арганізацый нашай сістэмы. У выніку мы маем у красавіку выкананне плана II-га квартала 39,8 проц.

Па паасобных гандлёвых арганізацыях выкананне яшчэ большае: па Белпромгандлю—46,4 проц., ТПУ НКУС—40,3 проц., Ваенгандлю—41,2 проц., Саюзпродмагу—43 проц. і т. д.

Лепшыя работнікі гандля ў стаханаўскі месячнік і на працягу красавіка выканалі план на 200 і больш процантаў. На нарадзе будуць удзельнічаць больш 200 чалавек работнікаў прылаўка і заг. магазінаў, якія па сваіх паказчыках работы поўнасцю адказваюць умовам на права ўдзелу на нарадзе, зацверджаным дырэктыўнымі органамі.

Задачы, якія стаяць перад гандлюючымі арганізацыямі БССР па забеспячэнню выканання больш двухмільярднага плана рознічнага таваразвароту—вялікія. Несумненна, што дадзеная нарада паслужыць на карысць далейшаму паляпшэнню ўсёй пастаноўкі гандля БССР і забяспечыць не толькі выкананне, але і перавыкананне плана таваразвароту 1936 г. па ўсёй рэспубліцы ў цэлым.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Індывідуальныя нормы выпрацоўкі для прадаўцоў

### Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

20 красавіка 1936 г. **№ 374** г. Менск

1. Зацвердзіць павялічаныя індывідуальныя нормы выпрацоўкі на 1936 г. у сярэднім на аднаго прадаўца, супроць планавых норм, існаваўшых у IV-м квартале 1935 г.:

а) па Белпромгандлю—на 28 проц.
б) па Белхарчгандлю— „ 23 проц.
в) Менхарчгандлю — „ 23,2 проц.

2. Абавязаць дырэктароў торгаў разам з прафсаюзам работнікаў дзяржгандля арганізаваць шырокае абмеркаванне ўстаноўленых норм выпрацоўкі на канферэнцыях работнікаў прылаўка ў наступных канторах, якія не прадставілі да гэтага часу пратаколаў канферэнцый:

а) па Белпромгандлю—Слуцкай канторы,
б) „ Белхарчгандлю—Полацкай, Мазырскай і Магілёўскай канторах.
в) „ Менхарчгандлю—Бакалейна-гастранамічнай канторы і Менларку.

Пратаколы ўсіх сходаў і канферэнцый работнікаў прылаўка прадставіць Наркамунутгандлю БССР і Галоўгандлю не пазней 22/IV—36 г.

3. Прапанаваць дырэктарам торгаў закончыць работу па ўстанаўленню расцэнак на працягу трох дзён і да 23/IV—прадставіць НКУГ БССР тыпавыя расцэнкі па асобных таварных групах і прафесіях для зацверджання і безадкладна давесці іх да ўсіх магазінаў і работнікаў прылаўка.

4. Абавязаць дырэктароў торгаў на працягу аднэй дэкады арганізаваць суцэльную праверку на месцах своечасовага і правільнага давядзення норм выпрацоўкі і расцэнак да асобных магазінаў і работнікаў прылаўка.

Прасіць ЦП прафсаюза работнікаў дзяржгандля прыняць таксама ўдзел у правядзенні праверкі.

Для правядзення праверкі вылучыць з апарата Наркамунутгандля трох работнікаў.

Пры правядзенні праверкі на месцах, праверыць таксама як ажыццяўляюцца пастановы Наркамунутгандляў СССР і БССР аб дадатковай аплаце і павышаных расцэнках за продаж тавараў штодзённага попыта і аб прагрэсіўнай аплаце гандлёва-складскіх работнікаў за перавыкананне планаў тавараразварота.

Асаблівую ўвагу ў час праверкі звярнуць на выпадкі беспадстаўнага зніжэння работнікам прылаўка расцэнак, што парушае пастанову НКУГ СССР ад 19/II—36 г. № 907/231. У выпадку выяўлення такога парушэння, безадкладна выпраўляць гэтыя парушэнні ў працэсе праверкі. Планаваму аддзелу ўсе матэрыялы па праверцы прадставіць мне да 5 мая.

5. Абавязаць усіх кіраўнікоў торгаў і кантор давесці колькасны склад работнікаў прылаўка ў кожным магазіне ў адпаведнасці з устаноўленымі планамі тавараразварота і новымі нормамі выпрацоўкі, дакладна ўлічыўшы магчымасць далейшага роста вытворчасці працы, не дапушчаючы ні ў якім разе трымання лішніх работнікаў, што цягне за сабой зніжэнне норм выпрацоўкі і скарачэнне заработнай платы гандлёвых работнікаў.

6. У адпаведнасці з пастановай НКУГандля СССР № 1006 ад 2/IV—36 г. устанаўліваецца, што гарантыйны мінімум пры недавыкананні гандлёвымі работнікамі планаў тавараразварота (норм выпрацоўкі) не па іх віне выплачваецца: загадчыкам магазінаў і іх намеснікам у размеры 60 проц. іх тарыфнай стаўкі, а ўсім астатнім работнікам, як загадчыкам аддзелаў, аддзяленняў, секцый, іх намеснікаў, брыгадзірам, іх намеснікам, касірам, кантралёрам і іншым работнікам, пераведзеным на процантную аплату працы—у размеры 70 проц. іх тарыфнай стаўкі.

7. Абавязаць дырэктароў торгаў на працягу 5 дзён скончыць па ўсіх канторах работу па пераводу работнікаў складаў і баз на здзельную аплату працы ў адпаведнасці з пастановай Наркамунутгандля СССР і ЦК прафсаюза работнікаў дзяржгандля ад 10/II—36 г. № 222 і ўвесь апрацаваны матэрыял па гэтаму пытанню прадставіць Наркамунутгандлю БССР не пазней 23/IV—36 г. для зацверджання.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

* * *

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

22 красавіка 1936 г. **№ 386** г. Менск

1. Зацверджаныя і даведзеныя Белпромгандлем і Менхарчгандлем да магазінаў і работнікаў прылаўка сярэднія патаварныя нормы выпрацоўкі на аднаго прадаўца на 1936 год адмяніць. Гэтыя нормы не забяспечваюць павелічэння індывідуальных норм выпрацоўкі на 1936 г. супроць планавых норм, існаваўшых у IV-м квартале 35 г. у размеры, устаноўленым на нарадзе ў Нам. Наркамунутгандля СССР т. **Балоціна** 2/III—36 г. (па Белпромгандлю павелічэнне норм выпрацоўкі прадугледжана ў 23,3 проц. замест 28 проц. і па Менхарчгандлю—20,6 проц. замест 23,2 проц.).

2. Прапанаваць дырэктарам паказаных торгаў безадкладна перагледзець даведзеныя патаварныя нормы выпрацоўкі на аднаго прадаўца па асобных магазінах і таварных групах, працягнуўшы да абмеркавання і прапрацоўкі норм работнікаў прылаўка і стаханаўцаў гандля з тым, каб устаноўленае Наркамунутгандлем СССР 2/III—36 г. і Наркамунутгандлем БССР 20/IV—36 г. павелічэнне сярэдняй гадавой вытворчасці працы па торгу ў цэлым было поўнасцю захавана без малейшых адхіленняў.

3. Зацвердзіць распрацаваныя і спушчаныя Белхарчгандлем сярэднія патаварныя нормы выпрацоўкі

на 1936 год, якія прадугледжваюць рост індывідуальных норм супроць планавых, існаваўшых у IV-м квартале 1935 г. на 23,4 проц. замест 23 проц., устаноўленых Наркамунутгандлем СССР і БССР.

4. У адпаведнасці з загадам па НКУГ СССР ад 8/IV—36 года № 1057 „Аб праверцы выканання рашэння Наркамунутгандля СССР па перагляду норм выпрацоўкі і выездзе да 10 мая 1936 г. работнікаў па працы ў Маскву для даклада“ абавязваю:

а) не пазней 5 мая прадставіць Наркамунутгандлю БССР усе матэрыялы аб выніках перагляда норм выпрацоўкі і расцэнак для работнікаў прылаўка, складаў, баз і прадпрыемстваў грамадскага харчавання;

б) праверку правесці паўсямесна па магазінах, складах, базах, прадпрыемствах грамадскага харчавання на аснове фактычных матэрыялаў за красавік месяц;

в) Планава-фінансаваму аддзелу разам з торгамі распрацаваць і давесці да кантор вычарпальныя ўказанні аб парадку праверкі норм выпрацоўкі і ўстанаўленню новых расцэнак.

Наркамунутгандаль БССР **Н. Гурэвіч**

## Павелічэнне дадатковай узнагароды работнікам магазінаў за перавыкананне плана тавараразварота

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

20 красавіка 1936 г. **№ 375** г. Менск

У змену пастановы Наркамунутгандля БССР ад 18|III—36 г. № 83 „(Гандлёвы Бюлетэнь“ Наркамунутгандля БССР № 5 за 1936 г.), на падставе тэлеграфнага распараджэння Саюзнаркамунутгандля **т. Вейцэра** № 11487 ад 20|IV—36 г. загадваю:

1. Устанавіць з 15 красавіка 1936 г. дадатковую ўзнагароду для работнікаў гандлёвай сеткі за перавыкананне плана продажу тавараў штодзённага попыта (цукар, кандытарскія тавары, соль, мыла туалетнае і гаспадарчае, запалкі, махорка) у наступным размеры:

а) для загадчыкаў магазінаў і іх намеснікаў за кожную адзінку ўказанага тавара звыш плана: па цукру і кандытарскіх таварах — 4 кап. за кгр., солі — 12 кап. за 25 кгр., махорцы — 10 кап. за кгр., мылу гаспадарчаму і туалетнаму — 4 кап. за кгр., запалкам — 6 кап. за 100 каробак.

Размеркаванне гэтых сум паміж загадчыкам і яго намеснікам праводзіцца прапарцыянальна іх тарыфных стаўках.

б) дадатковую ўзнагароду для прадаўцоў, занятых продажай указаных тавараў, загадчыкаў секцый, брыгадзіраў, за кожную адзінку тавара праданага звыш плана, у адпаведнасці з колькасцю праданых тавараў, якія прыпадаюць на кожнага з іх, устанавіць у наступных размерах: па цукру і кандытарскіх таварах — 2 кап. за кгр., солі — 6 кап. за 25 кгр., махорцы — 5 кап. за кгр., мылу гаспадарчаму і туалетнаму — 2 кап. за кгр. і запалкам — 3 кап. за 100 каробак.

2. Гэтая пастанова распаўсюджваецца на ўсе магазіны сістэмы Саюзнаркамунутгандля, у тым ліку і на магазіны мясцовых торгаў.

3. Абавязаць усіх дырэктараў торгаў і кіраўнікоў гандлёвых арганізацый безадкладна давесці гэтую пастанову да ўсіх магазінаў і работнікаў гандлёвай сеткі.

4. Прапанаваць усім кіраўнікам торгаў і гандлёвых арганізацый пры ўстанаўленні размера зарплаты, выдзяляць адпаведны фонд на выплату дадатковай узнагароды, устаноўленай гэтай пастановай за перавыкананне планаў продажу тавараў штодзённага попыта.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

## Гандаль таварамі штодзённага попыта ў Лоеве

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

21 красавіка 1936 г. **№ 376** г. Менск

Наркамунутгандаль БССР пастанаўляе:

1. Прыняць да ведама паведамленне Лоеўскага Райунутгандля тав. **Вайнера**, што загад № 129 аб давядзенні да кожнага магазіна квартальнага плана продажу тавараў штодзёнага попыта ім выканан. Планы да ўсіх магазінаў даведзены.

2. Адзначыць, што Лоеўскі Райунутгандаль усё-ж не дабіўся поўнага выканання загада № 2091, што пацвярджае адсутнасць солі ў раённым магазіне Белхарчгандля і цукру ў магазіне ОРС'а воднікаў.

3. Адзначыць зусім дрэннае становішча з выкананнем планаў продажу тавараў штодзённага попыта. План па продажу махоркі за 1-шы квартал выканан усяго на 26 проц., цукру 62 проц., мылу гаспадарчаму і туалетнаму—83 проц.

4. Указаць Лоеўскаму Райунутгандлю т. **Вайнеру** і кіраўнікам гандлюючых арганізацый, што асноўная іх задача, побач з забеспячэннем усёй сеткі таварамі штодзённага попыта—гэта арганізацыя попыта на гэтыя тавары і прасоўванне іх да спажыўца.

5. Указаць таксама Райунутгандлю і гандлюючым арганізацыям на неабходнасць забяспечыць сетку не толькі прадтаварамі, але і шырокім асартыментам промтавараў штодзённага попыта (ніткі, голкі, галантарэйныя тавары і інш.).

6. Прапанаваць Райунутгандлю т. **Вайнеру** ўстанавіць сістэматычны нагляд за работай, гандлюючых арганізацый і сапраўдны кантроль, які забяспечыў-б безумоўнае выкананне плана тавараразварота другога квартала, для чаго шырока прыцягнуць грамадскасць (актыў сельсоветаў, калгаснікаў, комсамол; арганізацыя сігнальных пастоў і шэфства над паасобнымі магазінамі). Шырока папулярызаваць і ўкараняць у быт спажыўца, такія тавары, як мыла гаспадарчае, туалетнае і інш. тавары.

7. К 5-му мая прадставіць Наркамунутгандлю практычныя мерапрыемствы па ажыццяўленні гэтай пастановы.

Аб выніках паўторнай праверкі ўсёй сеткі і аб выкананні планаў продажу тавараў штодзённага попыта за красавік паведаміць к 5 мая г. г.

Наркамунутгандаль БССР **Н. Гурэвіч**

# ПРАВІЛЫ ГАНДЛЮ ТРЫКАТАЖНЫМІ ВЫРАБАМІ

*(Зацверджаны Наркамунутгандлем БССР 31/III—36 г. № 14/3).*

## 1. Агульныя палажэнні

1. Гандаль трыкатажнымі вырабамі праводзіцца ў спецыялізаваных магазінах і палатках, а таксама ў аддзяленнях промтаварных магазінаў і універмагаў.

2. Рознічныя магазіны, якія гандлююць трыкатажнымі вырабамі (спецыялізаваныя ці аддзяленні промтаварных магазінаў) павінны будаваць сваю работу на аснове культурнага абслугоўвання пакупніка, у адпаведнасці з павышанымі патрабаваннямі яго да якасці і асартымента трыкатажных вырабаў.

3. Магазін павінен праводзіць адпаведныя мерапрыемствы па забеспячэнню правільнай растаноўкі рабочай сілы і ўшчыльнення рабочага дня работнікаў прылаўка, павышаючы пры гэтым якасць абслугоўвання спажыўца. У гэтых мэтах, пры рабочым дні магазіна больш 8 гадзін, неабходна, каб у гадзіны максімальнага наплыва пакупнікоў, у магазіне працавала найбольшая колькасць прадаўцоў з тым, каб колькасць іх паменшылася ў гадзіны адносна ціхага гандля.

4. Магазін абавязан забяспечыць праходжанне ўсімі работнікамі магазіна ўстаноўленага тэхмінімума і сістэматычна павышаць іх кваліфікацыю.

Прадаўцы абавязаны аўладаць неабходнымі ведамі, якія датычаць якасці матэрыяла трыкатажных вырабаў, якасці іх пашыўкі, вязкі і т. д., способа догляда (як сціраць), захавання трыкатажных вырабаў, іх размераў, фасонаў, моды і т. д.

5. Магазін павінен весці ва ўстаноўленым парадку ўлік тавараў такім чынам, каб у любы час можна было-б ўстанавіць прыход, расход і астатак тавара.

6. Адказнасць за дзейнасць магазіна ў цэлым нясе дырэктар магазіна, матэрыяльную-ж адказнасць нясуць тыя асобы, якім непасрэдна пераданы пад справаздачу матэрыяльныя каштоўнасці, а таксама і дырэктар магазіна ў выпадку непрыняцця ім своечасова адпаведных мер па барацьбе з хішчэннямі, растратамі, недахопамі і т. д.

7. Магазіны павінны ўтрымлівацца ў чыстаце, з захаваннем санітарных правіл.

8. У адпаведнасці з правіламі, зацверджанымі пастановай Наркамунутгандля СССР ад 21/IV—35 г. за № 284, у кожным магазіне, які гандлюе трыкатажнымі вырабамі, павінна быць кніга скаргаў і прапаноў.

## II. Снабжэнне

9. Магазіны павінны забяспечыць атрыманне тавара, які адпавядае попыту пакупніка, шляхам складання папярэдніх заказаў, адборкі тавараў на базах пастаўшчыкоў, удзела ў выпрацоўцы прамысловасцю вытворчага асартымента і т. д. па наступных адзнаках:

а) род трыкатажных вырабаў—мужчынскі, жаночы і т. д.
б) від трыкатажных вырабаў—верхні, бялізна і т. д.
в) матэрыялы—шэрсцяны, баваўняна - папяровы, шоўкавы і т. д.
г) размер.
д) ростоўка.
е) фасон.
ж) колер.

## III. Прыёмка трыкатажных вырабаў

10. Прыёмка трыкатажных вырабаў праводзіцца асобамі, спецыяльна на тое ўпаўнаважанымі дырэктарам магазіна ці загадчыкам аддзялення.

11. Адказнасць за прыёмку, як колькасную, так і якасную, нясуць тыя асобы, якія фактычна праводзяць прыёмку.

12. Прыёмка трыкатажных вырабаў павінна праводзіцца ў падсобным памяшканні магазіна каб пазбегнуць заграмаджэння таварамі гандлёвай залі і парушэння нармальнага водпуска тавараў пакупніку.

13 Колькасная і якасная прыёмка трыкатажных вырабаў праводзіцца ў тэрмін і ў парадку, прадугледжаных дагаворамі з пастаўшчыкамі, а ў тых выпадках, калі тэрміны і парадак прыёмкі дагаворам не прадугледжаны—бакі кіруюцца тэрмінамі і парадкам, якія прадугледжаны для якаснай прыёмкі інструкцыяй Дзяржарбітража пры СНК СССР ад 2 студзеня 1935 г. („Бюлетэнь Наркамунутгандля СССР“ 1935 г. № 2 стр. 35).

14. Пры прыёмцы трыкатажных вырабаў належыць, перш за ўсё, праверыць колькасць і стан прыбыўшых скрыняў, каробак і цюкаў, а таксама адпаведнасць іх з данымі дакументамі адпраўіцеля і, у прыватнасці, чоткасць маркіроўкі.

15. Пры прыёмцы належыць звяртаць асаблівую ўвагу на адпаведнасць атрыманага тавара асартыментным адзнакам, прадугледжаным заказам.

Прыёмшчык абавязан сачыць за тым, каб вырабы былі зусім сухімі і мелі правільную аддзелку, фарміроўку і прэсоўку.

16. Якасная прыёмка трыкатажных вырабаў праводзіцца шляхам абавязковага індывідуальнага агляда на выбарку.

Колькасць пробных вырабаў, якія падлягаюць агляду на выбарку, паміма ОСТ“аў, вызначаецца дагаварамі паміж пакупнікамі і пастаўшчыкамі.

17. Пры якаснай прыёмцы трыкатажных вырабаў належыць праверыць якасць пашыўкі, вязкі (кіруючыся стандартамі, тэхнічнымі апісаннямі, прыкладзенымі да дагавора) і правіламі разбракоўкі пры ОСТ“е.

18. Прыёмшчык абавязан звярнуць асаблівую ўвагу на якасць афарбоўкі ў адносінах яе прочнасці, аднастайнасці, колера і інш., адначасова выяўляючы, ці няма якіх-небудзь тэхнічных дэфектаў (няправільнасць вязкі і шыўкі, пропускі, штопка і т. д.).

19. Пры праверцы метровага тавара (цюль, гардзіны і гладкі, кружэўныя вырабы, шыццё і т. д.) неабходна таксама праверыць фактычную меру тавара ў кавалку, на вытрымку.

20. Праверка размераў трыкатажных вырабаў праводзіцца сантыметрам ці металічнай лінейкай у распраўленым відзе (без нацяжкі) на сталах.

21. Калі пры выбарачным аглядзе трыкатажных вырабаў акажацца недахоп ці недобраякасць тавара (штопка, памаркі, няроўнасць пражы, фарбоўкі і т. д.), якая неадпавядае ОСТ'у і правілам разбракоўкі (укарачэнне ці звужэнне ўсяго ці часткі вырабаў), прыёмшчык абавязан скласці адпаведны акт з удзелам здатчыка і прадстаўніка грамадскасці магазіна.

Рэзультат выбарачнага агляда якасці трыкатажных вырабаў распаўсюджваецца на ўсю партыю (100 проц.) трыкатажных вырабаў.

22. Усе асобы, якія адказваюць за прыёмку трыкатажных вырабаў, абавязаны прайсці праверачныя іспыты па ўсваенню імі правіл разбракоўкі трыкатажных вырабаў.

## IV. Хаванне трыкатажных вырабаў

23. Трыкажныя вырабы павінны хавацца ў падсобным памяшканні магазіна такім чынам, каб забяспечыць:

а) максімальнае скарыстанне ёмкасці падсобнага памяшкання і хуткае знаходжанне таго ці іншага віда тавара;

б) даступнасць прахода для ўліка і водпуска тавараў у гандлёвую залю магазіна;

в) захаванне трыкатажных вырабаў ад псавання і пылу.

24. Падсобнае памяшканне для хавання трыкатажных вырабаў павінна быць сухое, чыстае, добра вентылюемае.

Трыкатажныя вырабы, якія захоўваюць запах машыннага масла, патрабуюць беражнага хавання ад грызуноў.

Кропкі электраасвятлення павінны знаходзіцца на адлегласці не бліжэй 50 см. ад трыкатажных вырабаў.

Трыкатажныя вырабы павінны знаходзіцца не бліжэй 1 метра ад крыніц атаплення.

25. Хаванне трыкатажных вырабаў без сцелажоў на падлозе сурова забараняецца.

Увага: Сцелажы павінны адстаяць ад падлогі не менш 20—25 сантыметраў.

26. Трыкатажныя вырабы ў месцах хавання павінны ўкладвацца ў спецыяльныя скрыні ці каробкі, каб папярэдзіць пападанне на іх пылу; паміж скрынямі і сценамі падсобнага памяшкання павінна быць застаўлена свабоднае месца ў 15—20 сантыметраў.

27. Тавар, які знаходзіцца на больш ці менш доўгім хаванні, павінен перыядычна праглядацца і перакладвацца так, каб ён не злежваўся. Тавар, які аказаўся адсырэўшым, неабходна неадкладна і добра прасушваць, каб пазбегнуць прэння пражы і страты ёю сваёй прочнасці.

28. У мэтах захавання ад молі пашытых з шэрсцяных і камвольных тканей трыкатажных вырабаў, іх належыць перасыпаць нафталінам ці лістовым табакам.

29. Для ўстанаўлення правільнай сістэмы размяшчэння трыкатажных вырабаў і іх хуткага знаходжання, рады сцелажоў, клеткі і т. п. павінны быць размешчаны з адпаведнымі абазначэннямі і нанесены на даведачную карту размяшчэння трыкатажных вырабаў.

30. Пры размяшчэнні трыкатажных вырабаў неабходна сачыць за тым, каб уноў прыбыўшыя вырабы не закрывалі раней прыбыўшых.

Перадача вырабаў з падсобнага памяшкання ў гандлёвую залю павінна праводзіцца ў парадку чарговасці паступлення аднайменнага тавара ў падсобнае памяшканне магазіна.

30. Увесь асартымент тавара, які ёсць у падсобным памяшканні, павінен знаходзіцца і ў гандлёвай залі.

## V. Водпуск трыкатажных вырабаў

32. Паступаючыя ў гандлёвую залю магазіна трыкатажныя вырабы павінны быць папярэдне добра агледжаны, рассартыраваны, расцэнены і раскладзены ў каробках і на паліцах.

Пры гэтым неабходна праверыць ці ёсць на трыкатажных вырабах належнае абазначэнне рознічнай цаны, гатунка, размера і стандарта.

33. Пры паступленні трыкатажных вырабаў з падсобнага памяшкання ў гандлёвую залю павінна быць звернута асаблівая ўвага на прывядзенне тавара ў належны від, г. зн. мяты трыкатаж павінен быць прапрасаван, вычышчан і т. д.

34. Трыкатажныя вырабы ў гандлёвай залі павінны знаходзіцца на паліцах, у шафах і на прылаўках (у скрынях прылаўкаў).

35. У спецыялізаваных магазінах трыкатажных вырабаў, а таксама ў трыкатажных аддзяленнях універмагаў, трыкатажныя вырабы павінны размяшчацца па наступных групах: 1. Жаночы трыкатаж. 2. Мужчынскі трыкатаж. 3. Дзіцячы трыкатаж.

У кожнай групе пасобны від трыкатажных вырабаў павінен раскладвацца па размерах.

36. Усе магазіны, якія гандлююць трыкатажнымі вырабамі, павінны мець прымерачныя з люстрамі, пажадана трыльяжамі, якія дазваляюць бачыць апранутае плацце, джэмпр і т. д. з усіх бакоў ва ўвесь рост.

37. Магазін абавязан забяспечыць пакупніку пры выбары ім трыкатажных вырабаў поўную магчымасць азнаёміцца з усім асартыментам, які ёсць у магазіне.

38. Прадавец абавязан аказваць пакупніку неабходнае садзейнічанне пры выбары ім вырабаў (від, фасон, размер і т. д.), знаёмячы яго з якасцю і цаной пакупаемых вырабаў, дапамагаючы ў прымерцы, указваючы як сядзіць прымяраемы джэмпр і т. д.

Пры наяўнасці якасных недахопаў тавара, прадавец абавязан папярэджваць аб гэтым пакупніка.

39. У выпадку адсутнасці ў магазіне патрабуемых пакупніком трыкатажных вырабаў, прадавец абавязан прапанаваць пакупніку другі тавар, які-б мог замяніць адсутнічаючы.

40. Тавар, які мае які-бы там ні было брак, дапускаецца ў продаж як непоўнакаштоўны па паніжанай цане, згодна зробленай уцэнкі.

41. Для азнаямлення пакупніка з устаноўленымі цэнамі на трыкатажныя вырабы, на відных мясцох у магазінах павінны быць прэйскуранты рознічных цэн.

42. Акрамя прэйскуранта, рознічныя цэны павінны быць абазначаны на ярлыках пры кожным тавары, за выключэннем панчошна-пальчатачных вырабаў.

На бракованым тавары ярлыкі павінны мець штамп з указаннем паніжанай цаны і слова „брак“ і процантаў скідкі.

43. Магазін павінен арганізаваць належную інфармацыю аб наяўным у магазіне асартыменце трыкатажных вырабаў, цэнах і т. п., у прыватнасці, шляхам абсталявання вітрын, кіруючыся пры гэтым правіламі абсталявання і ўтрымання вітрын у гандлёвых памяшканнях, зацверджанымі НКУГ СССР 25 ліпеня 1935 г. № 660.

Увага: Даведкі аб наяўных у магазіне трыкатажных вырабах павінны давацца і па тэлефону.

44. Выдача трыкатажных вырабаў пакупніку праводзіцца ці непасрэдна прадаўцом (у невялікіх магазінах), ці праз спецыяльныя кантрольныя сталы арганізуемыя ў магазінах трыкатажных вырабаў з лікам прадаўцоў не менш пяці.

45. Трыкатажныя вырабы адпускаюцца пакупніку абавязкова ў упакоўцы (або ў каробках ці ў папяровай упакоўцы).

46. Магазін павінен арганізаваць сістэматычнае і штодзённае вывучэнне попыту пакупніка, кіруючыся пры гэтым абежнікам НКУГ СССР ад 2 ліпеня 1935 г. за № 12636.

47. Гандлёвыя арганізацыі, у сістэму якіх уваходзіць магазін трыкатажных вырабаў (спецыялізаваны ці змешаны), абавязаны прыняць меры да таго, каб гэтыя правілы гандлю трыкатажнымі вырабамі былі даведзены да ведама работнікаў магазіна, які гандлюе трыкатажнымі вырабамі.

# ЦЭНЫ

## АДПУСКНЫЯ ЦЭНЫ НА ВЫРАБЫ БАБРУЙСКАГА ШВЕЙПРОМСАЮЗА З НЯПЛАНАВАЙ СЫРАВІНЫ

**(Зацверджаны пастановай Канвенцыйнага Бюро Наркамунутгандля БССР ад 11 красавіка)**

| Назва вырабаў | № прэйскуранта 1933 года | Размер | Цана сыравіны | | Адпускная цана | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пальто мужч. сукон. ватн. двухбортн. з мехавым каўнерам, гладк., падкладка сацін. . . . . . . . . . . . . | 1—1—1—43 | 48—50 | 43 | 50 | 180 | 06 |
| Пальто мужч. сукон. ватн. двухбортнае, хал. каўнер, гладк., падкладка сацін. . . . . . . . . . . . . . . | 1—2—1—43 | 48—50 | 43 | 50 | 181 | 50 |
| Пальто мужч. ватн. двухбортнае з мехав. каўнерам, з складкай, падкладка сацін. . . . . . . . . . . . . . . | 1—1—584—43 | 48—50 | 43 | 50 | 187 | 60 |
| Пальто мужч. сукон. дэмісезон. двухбортнае, гладк., падкладка да таліі, з падкладкай да ніза даражэй на 6 рублёў . . | 1—3—1—43 | 48—50 | 43 | 50 | 164 | 80 |
| Пальто мужч., сукон. двухбортнае з хлясцікам, дэмі, падкладка да таліі . . . . . . . . . . . . . . . | 1—3—3—43 | 48—50 | 43 | 50 | 172 | 50 |
| П/пальто мужч., ватн. сукон. двухбортнае з мехавым каўнерам, падкладка сацін . . . . . . . . . . . . . . . | 1—5—1—27 | 48—50 | 30 | | 115 | 25 |
| П/пальто мужч. сукон. ватн. двухбортнае з хал. каўнерам, падкладка сацін . . . . . . . . . . . . . . . | 1—6—1—27 | 48—50 | 30 | | 116 | 10 |
| П/пальто мужч. ватн. суконнае са складкай з мехавым каўнерам, падкладка сацін. . . . . . . . . . . . . . . | | 48—50 | 30 | | 122 | 50 |
| П/пальто мужч, суконнае двухбортнае са складкай, з хлясцікам, падкладка сацін., халодны каўнер. . . . . . . . . | | 48—50 | 30 | | 124 | 95 |
| Касцюм мужч. суконны двойка, двухбортны, брукі з манжэтамі. | 1—8—4—27 | 48—50 | 30 | | 136 | 55 |
| Брукі мужч. сукон. з манжэтамі . . . . . . . . . . | 1—9—2—27 | 48—50 | 30 | | 50 | 65 |
| Брукі мужч. сукон. без манжэт . . . . . . . . . . | 1—9—1—27 | 48—50 | 30 | | 48 | 60 |
| Брукі мужч. галіфе суконныя . . . . . . . . . . | 1—10—1—27 | 48—50 | 30 | | 45 | 25 |
| Брукі мужч. сукон. брыдж . . . . . . . . . . . | | 48—50 | 30 | | 49 | 20 |
| Пальто жаноч. сукон. ватн. з мехавым прыборам, гладкае . . | 6—1—1—27 | 48—50 | 30 | | 140 | 40 |
| Пальто жаноч. сукон. зімняе з мехавым прыборам, гладкае, удаўжонае . . . . . . . . . . . . . . . . | 6—1—2—27 | 48—50 | 30 | | 146 | 05 |
| Пальто жаноч. сукон. дэмі гладкае ўдаўжон., падкладка да ніза. | 6—4—1—27 | 48—50 | 30 | | 124 | 10 |
| Пальто жаноч. дэмі сукон. „фантазія“ удаўжон., падкладка да ніза . . . . . . . . . . . . . . . . | 6—4—2—27 | 48—50 | 30 | | 129 | 85 |
| Поўпальто жаноч. сукон. ватн. з халодным каўнерам. . . . | 6—7—1—27 | 48—50 | 30 | | 116 | |
| Касцюм жаночы суконны (жакет і юбка), жакет удаўжон., гладкі, падкладка сацін. . . . . . . . . . . . . . . | 6—10—1—27 | 48—50 | 30 | | 119 | 80 |
| Юбка жаночая сукон. гладкая, удаўжоная, на паяску . . . | 6—13—1—27 | 48—50 | 30 | | 43 | 50 |
| Пальто ватн. сукон. мальчыковае школьнае гладкае з хлясцікам, халодны каўнер . . . . . . . . . . . . . . | 12—2—1—27 | 36—38 | 30 | | 90 | 45 |
| Пальто дэмі, сукон. мальчыков. школьнае са складкай, з хлясцікам . . . . . . . . . . . . . . . . | | 36—38 | 30 | | 86 | 35 |
| Пальто ватняе сукон. мальчыковае дашкольн. гладк. з хлясцікам, халодны каўнер . . . . . . . . . . . . . . | 15—2—1—27 | 28—30 | 30 | | 66 | 15 |
| Пальто дэмі, сукон. мальчык., дашкольнае са складкай і хлясцікам . . . . . . . . . . . . . . . . . | | 28—30 | 30 | | 61 | 35 |
| Брукі сукон. мальчыков. школьн, з манжэтамі, доўгія. . . . | 12—8—2—27 | 36—38 | 30 | | 37 | 60 |
| Брукі сукон., мальчыков. школьн. без манжэт, доўгія . . . | 12—8—1—27 | 36—38 | 30 | | 34 | 60 |
| Целагрэйка ватн. бавоўняна-папяровая з нармальн. матэрыяла | В—13—1—116 | 48—50 | 2 | 90 | 29 | |

| Назва вырабаў | № прэйскуранта 1933 года | Размер | Цана сыравіны | | Адпускная цана | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Целагрэйка ватн. баваўн.-папяров. з лоскута і адыходаў | В—13—1—116 | 48—50 | 2 | 90 | 29 | 50 |
| Шаравары ватн. баваўн.-папяров. з нармальн. матэрыяла | В—13—2—116 | 48—50 | 2 | 90 | 23 | 30 |
| Шаравары ватн. баваўн.-папяровыя з лоскута | В—13—2—116 | 48—50 | 2 | 90 | 23 | 60 |
| Камбінезоны баваўн-папяровыя з нармальн. матэрыяла | В—13—8—116 | 48—50 | 2 | 90 | 22 | 40 |
| П/пальто муж. баваўн.-папяров. | 2—1—1—116 | 48—50 | 3 | | 46 | 50 |
| Брукі баваўн-папяров. з манжэтамі | 2—6—1—116 | 48—50 | 2 | 90 | 13 | 10 |
| Брукі баваўн-папяр. без манжэт | 2—5—1—116 | 48—50 | 2 | 90 | 12 | 45 |
| Касаваротка муж. баваўн.-папяр. сітцавая | 22—6—106 | 48—50 | 1 | 80 | 8 | 65 |
| Касаваротка муж. баваўн.-папяров. сацінавая | 22—6—119 | 48—50 | 4 | | 17 | |
| Таўстоўка муж. вельветавая, закрытая | 2—8—2 | 48—50 | 7 | 60 | 47 | 60 |
| Пальто ватн. баваўн-папяров. мальчык. школьн. з хлясцікам., | 13—1—1—121 | 36—38 | 3 | 62 | 39 | 65 |
| Касцюм аднабортны баваўн-папяровы з брукамі мальчык школьн. без падкладкі, брукі з манжэтамі | 13—3—1—116 | 36—38 | 2 | 90 | 19 | 30 |
| Брукі баваўн.-папяров. мальчык. з манжэтамі, доўгія. | 13—4—2—116 | 36—38 | 2 | 90 | 9 | 35 |
| Таўстоўка баваўн.-папяр., мальчык. школьн. са складкай | 13—6—1 | 36—38 | 7 | 60 | 28 | 10 |
| Коўдры паўтараспальныя, баваўн.-папяр. сацінавы верх | | 220/120 | 4 | | 49 | 25 |
| Коўдры двуспальныя, баваўн -папяр., сацінавы верх | | | 4 | | 65 | |
| Коўдры-маламеркі баваўн.-папяровыя, сацінавы верх | | 160/120 | 4 | | 37 | 10 |
| П/пальто баваўн-папяров. жаноч. ватн. гладкае | 7—1—1—121 | 48—50 | 3 | 62 | 58 | 35 |
| Юбка баваўн.-папяровая, гладкая на гумоўцы | 7—4—1—115 | 48—50 | 2 | 90 | 8 | 40 |
| Кепі баваўн.-папяров. з лоскута | 32—1—8—121 | 53—60 | 3 | 25 | 3 | 76 |
| Кепі англійскія, баваўн.-папяров. з лоскута | 32—2—1—121 | 53—60 | 3 | 25 | 3 | 76 |
| Капітанкі дзіцячыя, баваўн.-папяровыя з лоскута | | 48—52 | 3 | 25 | 3 | 12 |
| Кепі сукон. з лоскута | 31—1—2—37 | 53—60 | 30 | | 4 | 80 |
| Капітанкі суконныя | | 53—60 | 30 | | 7 | 60 |
| Амерыканкі суконныя | | 53—60 | 30 | | 8 | |
| Англійкі суконныя | 31—2—1—27 | 53—60 | 30 | | 8 | 05 |
| Капітанкі дзіцячыя, суконныя з лоскута | | 48—52 | 30 | | 5 | 55 |

# СПРОС И ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

г. Минск, Советская ул., Дом Правительства, левое крыло, 4-й этаж, комн. 412, тел. 25-691. Адрес для телеграмм—МИНСК, БЕЛТОВАРБЮРО, тек. сч. в Белорусской Конторе Госбанка № 160012.

## ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

### Пищевкусовая группа.

Баранки сахарные, из муки 30 проц., по 40—45 шт. в кгр.—500 кгр. ежедневно, 6 р. 10 к. за кгр., франко-экспедиция хлебозавода, расчет акцептом.

Картофельный крахмал сырец, грязевой, влажностью 50 проц. 32 тонны—392 руб. 40 к. тонна, франко-станция отправления, расчет акцептом.

Крахмал сырец—2-й сорт, влажность 46 проц. 100 тонн.—495 руб. тонна, франко-склад продавца, расчет акцептом.

Мед крахмало-паточный, сахаристость 55 проц., плотн. от 38—40° по Боме—10 тонн—2200 руб. тонна, франко-склад производства, расчет акцептом.

Мед исскуственный паточный—35 тонн, сахаристостью 50 проц., плотность по Боме 38°,—2000 руб., франко-склад продавца, расчет акцептом.

Сироп клюквенный на чистом сахаре, сахаристость 55—66 проц. плотность по Боме—32—33°—10.000 литров—4 руб. 70 к. за литр, франко-вагон станция отправления, расчет акцептом.

Повидло брусничное 1 сорта, сахаристость 55—60 проц., влажность 35 проц.—5 тонн—3250 руб. тонна, франко-склад продавца, расчет акцептом.

Варенье брусничное—сахаристостью 55 проц.—10.000 банок весом 1 кгр. нетто—3900 руб. тонна, цена банки варенья 4 руб. 40 к., франко-склад продавца, расчет акцептом.

Яблоки в сиропе—на чистом сахаре, сахаристость 60 проц.—6 тонн цена франко-завод продавца для: 1 пояса—3300 руб. тонна, 2 пояса—3500 руб. тонна, 3 пояса—3600 руб. тонна и 4 пояса—3900 руб. тонна, расчет акцептом.

Картофель столовый—кондиционного качества—300 тонн, 180 руб. тонна франко-бурт 6 клм. до ж. д., расчет акцептом.

Рябина сухая—50 тонн., 1 р. 10 к. кгр., франко-вагон станция отправления, расчет акцептом.

### Лесохимическая группа.

Гуталин черный—100.000 банок по 2 руб. 80 к. десяток + 50 проц. бюджетной наценки, цена франко-производство.

Галипот из сосновой смолы 100 тонн—1000 руб. тонна, франко-вагон станция отправления, расчет акцептом.

Лак асфальтовый грубый—300 тонн, 719 р. 60 к. расчет акцептом, лак асфальтовый 1 сорта—25 тонн по 1150 руб. тонна, тоже 2 сорта—25 тонн по 550 руб. тонна, мазь колесная—25 тонн по 390 руб. тонна, смола строительная—50 тонн по 400 руб. тонна, франко-производство, расчет акцептом.

Смола-строительная—1000 тонн—300 руб. тонна, франко-вагон станция отправлен., лак асфальтовый—500 тонн 1100 руб. тонна, деготь химический—500 тонн по 450 руб. тонна, колесная мазь—500 тонн по 350 руб. тонна, расчет акцептом.

Декстрин 1 сорта—16 тонн по 1700 руб. тонна, франко-вагон, станция отправления, тоже 2 сорта—16 тонн—1500 р. тонна, расчет акцептом.

Сургуч в палочках доброкачественный—10000 кгр., цена франко-склад продавца 2250 руб. тонна, расчет акцептом.

Телеги крестьянские раздвижные окованные, под железный ход—180 штук, цена франко-склад артели 295 руб., расчет акцептом.

Обручи гнутые ореховые размер 2—2,5 мт., ширина 2,5—4 см.—40.000 штук—23 коп. штука, франко-вагон ж. д., расчет акцептом.

Дрань штукатурная длин. 1 мт. шир.—2,5—3 мм—3.000.000 штук, в пачках по 1000 штук, цена франко-вагон 16 руб. за тысячу штук, расчет акцептом.

Клепка осиновая, ольховая и сосновая—30 тысяч погонных метров, 23 коп. за погон. метр, расчет акцептом.

Уголь древесный сосновый—300 тонн,—220 руб. тонна нетто, франко-вагон станция отправления (франко-производство 184 р. тонна), расчет акцептом.

Метлы березовые из свежего прута осенней и зимней заготовки—300 тыс. штук—20,5 коп. штука, франко-вагон станция отправления, расчет акцептом.

## Тара

Бочки дубовые, новые на 4-х жел. обручах—100 штук—28 руб. штука, франко-завод продавца, расчет акцептом.

## Промтоварная группа

Палочки деревянные точенные для массовых покупок—10 млн. штук—$1^1/_4$ коп., франко-склад продавца, акцепт.

Токарные станки по дереву—100 штук.—500 руб., расчет акцепт.

Портфели ученические, граликсовые, разных цветов—2 000 шт. по 14 руб. штука. Сумки ученические фанерные,—5000 шт. по 5 руб., 50 к. Сумки дамские граликсовые разноцветные 27×12—1000 штук—19 р. 85 к. тоже 24×12— 1000 шт.—17 р. 65 к., тоже 23×12 1000 шт.—14 руб. 15 к. расчет акцептом.

Куклы: „пионеры"—5 000 шт, „корейцы"—1 500 шт. „негры"—1500 шт., „китайцы"—1500 шт. и „мальчики"—500 шт. по цене 5 р. 60 к. за штуку, расчет акцептом.

Детские игрушки из пап'е-маше: кошка—2 руб. 30 к. конь № 1—1 руб. 45 к., конь № 2—3 руб. 45 к., конь № 3—4 руб. 10 к., конь № 6—8 руб. 50 к., конь № 7—25 р., утка 4 р 80 к., гусь—4 руб. 90 к., тигр—4 руб. 40 к., корова №—1—1 руб. 45 к., корова № 2—3 руб 45 к., шлем красноармейский—1 р. 75 к., каска милицейская—1 р 35 к., зебра—4 р. 50 к. всего на сумму 125 000 р., франко-склад производство, расчет акцептом.

## СПРОС ТОВАРОВ:

Яблоки крымские и кавказские. Тюлька маринованная и соленая без ерша. Сельди разные. Комса. Орехи разные. Чернослив сушенный, урюк, сабза, изюм. Сухофрукты. Горчица сухая. Лавровый лист. Перец сингапурский. Колбаса, свинокопченности. Битая птица. Консервы рыбные частиковой породы. Питьевая и бельевая сода. Мак. Макаронные изделия. Уксусная эссенция. Лук свежий и сухой. Фасоль. Папиросы II-го и III-го сортов.

Канифоль. Глицерин чисто химический. Серная кислота. Черный лак. Лоза белая и лозовые палки. Мешки старые и новые. Парафин светлый и желтый. Бутылки чистые разных размеров. Клепка осиновая колотая и пиленая. Краска в пакетах московской фабрики „Радуга". Гуталинные банки—стеклянные и жестяные.



Выданне Наркамунутгандля БССР—Дом Урада, 4-ты паверх, пак. 415, тэл. 22-540.

Адк. рэдактар Н. Гурэвіч — Адк. сакратар рэдакцыі В. Адлерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 529. Тыраж 750 экз. Галоўлітбел № 3258.